СОНЦА:
Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 4.41, 21.44, 17.03;
Віцебск — 4.22, 21.43, 17.21;
Магілёў — 4.30, 21.34, 17.04;
Гомель — 4.37, 21.21, 16.44;
Гродна — 4.58, 21.58, 17.00;
Брэст — 5.07, 21.48, 16.42.

МЕСЯЦ:
Маладзік 30 чэрвеня.

ІМЯНІНЫ:
Лявонція, Іпація, Фядула; Галіны, Мар'яна.

# ЗВЯЗДА

1 ЛІПЕНЯ 1992 г.
серада, № 130 (21908)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

# РОЗГАЛАС

## РЭФОРМА ТРЭЦЯЙ УЛАДЫ

Адным з краевугольных камянёў прававой дзяржавы з'яўляецца судовая ўлада. Колькі гарачых слоў і цэлых навуковых трактатаў прысвечана неабходнасці кардынальнай рэформы судова-прававой справы. І вось, здаецца, гэта пытанне атрымае, нарэшце, сваё лагічнае вырашэнне. Прынамсі пра гэта вялася прынцыповая, зацікаўленая размова на расшыраным пасяджэнні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па заканадаўству, якое адбылося ўчора пад старшынствам кіраўніка камісіі Д. Булахава. Абмеркаваны ход выканання пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 23.04.92 г. «Аб канцэпцыі судова-прававой рэформы ў Рэспубліцы Беларусь» і меры па яе арганізацыйнаму і матэрыяльна - тэхнічнаму забеспячэнню.

У выступленнях міністраў юстыцыі і ўнутраных спраў Л. Дашука і У. Ягорава, старшыні Камітэта дзяржбяспекі Э. Шыркоўскага, намесніка Генеральнага пракурора І. Сашчэкі, старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда У. Бойкі, намесніка Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь С. Брыля, іншых прамоўцаў прагучала заклапочанасць, нават трывога за стан крымінальнай абстаноўкі ў рэспубліцы, ажыццяўлення судова-прававой рэформы.

У прынятым па гэтаму пытанню рашэнні адзначана перш за ўсё няўзгодненасць у дзеяннях пэўных службаў і ведамстваў, адсутнасць комплекснага падыходу да вырашэння праблем судова-прававой рэформы, абмежаванасць кола суб'ектаў, непасрэдна занятых яе праўдзеннем. Не на належным узроўні і матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне дзейнасці судоў.

**Уладзімір ГОЙТАН.**

## БУДУЦЬ І Ў НАС СВАЕ МАГІСТРЫ

На пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі, што адбылося 26 чэрвеня, прынята пастанова аб сістэме атэстацыі навуковых і навукова-педагагічных кадраў рэспублікі. Савету Міністраў даручана распрацаваць і прадставіць на разгляд парламента праект Закона «Аб навуковых ступенях і навукова-педагагічных званнях».

**БелаПАН**

## ПАМОЧНІКІ ДЗЕЛАВЫХ ЛЮДЗЕЙ

БРЭСТ. **(У. Макарэвіч).** З новага навучальнага года ў Брэсцкім прафтэхвучылішчы № 229, якое выпускае радыёмеханікаў па абслугоўванню і рамонту тэле- і радыёапаратуры, іншай складанай бытавой тэхнікі, будуць рыхтаваць спецыялістаў для работы ў свабоднай эканамічнай зоне, што ствараецца ў раёне Брэста.

Гэта памочнікі дзелавых людзей — кіраўнікоў фірм, сумесных, дзяржаўных і іншых прадпрыемстваў. Яны павінны будуць ведаць англійскую і польскую мовы, асновы бухгалтарскага ўліку, умець працаваць на машынках з лацінскім шрыфтам, з персанальным камп'ютэрам, сучаснай аргтэхнікай.

А ў прафтэхвучылішчы № 51 маюць намер рыхтаваць сакратароў-рэферэнтаў — таксама для работы ў свабоднай эканамічнай зоне.

## ХОЧАШ ВУЧЫЦЦА—ПЛАЦІ

ГРОДНА. Набор у мясцовы медінстытут у гэтым годзе скарочаны ўдвая, з 600 да 300 чалавек, ды і то для свабоднага конкурсу застаецца нешта каля 120 месц. Для параўнання адзначым, што ў мінулыя гады толькі ад адных медалістаў паступала да 400 заяў. Аднак і для тых, хто не пройдзе конкурсу, ёсць шанц вучыцца. Для гэтага трэба плаціць — 95 тысяч рублёў у год па сённяшніх цэнах.

## ДА ЎРУЧЭННЯ ВЯРЫЦЕЛЬНЫХ ГРАМАТ

Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Украіны ў Рэспубліцы Беларусь Уладзімір Жаліба 30 чэрвеня ўручыў вярыцельныя граматы старшыні беларускага парламента Станіславу Шушкевічу.

Уладзімір Іванавіч Жаліба нарадзіўся 24 лютага 1934 года, украінец. Закончыў сельскагаспадарчы інстытут у горадзе Умань па спецыяльнасці аграном-глебазнавец.

З 1957 года ён працаваў у Цярнопальскай вобласці аграномам, галоўным аграномам, начальнікам райсельгасінспекцыі, галоўным дзяржаўным інспектарам па закупках. З 1962 года займаў розныя пасады ў партыйным апараце. З 1971 года — першы намеснік старшыні Цярнопальскага аблвыканкома. З 1973 года — зноў на партыйнай рабоце, але ўжо ў Чарнігаве. З 1978 года — слухач Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС. З 1980 года — старшыня выканкома абласнога Савета народных дэпутатаў, старшыня абласнога Савета народных дэпутатаў у Кіраваградзе. З 1992 года — член Камісіі Вярхоўнага Савета Украіны па пытаннях дзейнасці Саветаў народных дэпутатаў.

Жанаты, мае дваіх дзяцей.

**МЗС Рэспублікі Беларусь—БЕЛТА.**

## УКРАІНА РАЗЫХОДЗІЦЦА З РУБЛЁМ

**Адным з найбольш важных дакументаў, якія будуць стаяць на парадку дня сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў 6 ліпеня ў Маскве, каардынатар Рабочай групы Савета кіраўнікоў дзяржаў і Савета кіраўнікоў урадаў СНД Іван Каратчэня лічыць канцэпцыю Статута Садружнасці. Яго адсутнасць, на думку Каратчэні, у многім ускладняе вырашэнне вельмі многіх важных пытанняў. Напрыклад, аб прававым статуце Гаспадарчага суда СНД.**

Чакаецца, што кіраўнікі Садружнасці 6 ліпеня разгледзяць пытанне аб каардынацыі дзеянняў і абароне інтарэсаў дзяржаў «рублёвай зоны» з увядзеннем нацыянальнай валюты. Як ужо паведамлялася, на сустрэчы кіраўнікоў урадаў краін СНД, якая адбылася 26 чэрвеня ў Мінску, гэты дакумент быў парафіраваны, а паўнамоцным прадстаўнікам урадаў, міністрам фінансаў Садружнасці дадзены даручэнні распрацаваць шэраг яго палажэнняў.

Гаворачы аб уражаннях ад прайшоўшай сустрэчы ў Мінску, Каратчэня зазначыў карэспандэнту «Інтэрфакса», што, нягледзячы на вялікую ступень складанасці данага праекта, узгадненне, абмеркаванне яго праходзіла без якіх-небудзь рознагалоссяў.

Каардынатар групы сказаў таксама, што Украіна ў хуткім часе выйдзе з «рублёвай зоны».

На будучай сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў будзе абмяркоўвацца шэраг важных праблем, у прыватнасці, праект узгаднення сістэмы ППА СНД і праект палажэння аб Савеце калектыўнай бяспекі.

3 ліпеня ў Маскве збяруцца міністры замежных спраў і міністры абароны рэспублік СНД. Яны канчаткова вызначаць асноўныя пункты парадку дня, магчыма, парафіруюць шэраг дакументаў, зробяць сумесную заяву аб ступені гатоўнасці кіраўнікоў дзяржаў СНД.

**Вячаслаў ЗЯНЬКОВІЧ.**

## ЗБЯРОМ «ФОЛЬКСВАГЕН»?

**Першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Міхаіл Мясніковіч прыняў ў Доме ўрада старшыню праўлення аўтамабільных заводаў «Фольксваген» пана Даніэля Гедэвара. Абмеркаваны перспектывы развіцця двухбаковых эканамічных адносін. У прыватнасці, разгледжана магчымасць будаўніцтва ў рэспубліцы гэтым канцэрнам завода па зборцы легкавых аўтамабіляў з гатовых вузлоў і дэталей, а таксама ўзвядзення ў Мінску ўзорнага цэнтра па продажу і сэрвіснаму абслугоўванню аўтамабіляў «Фольксваген».**

**Пан Гедэвар праявіў вялікую цікавасць да сумеснага праекта БелаўтаМАЗа і германскай фірмы «Неаплан» па вытворчасці аўтобусаў.**

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь—БЕЛТА.**

## РАДЫЁ ФАКТ

Камісія па гісторыі і культуры Беларускага народнага фронта «Адраджэнне» правяла «круглы стол» на тэму «Дзяржаўная мова ў сродках масавай інфармацыі». Удзельнікі — пісьменнікі, літаратуразнаўцы, журналісты разглядалі ролю і месца беларускай мовы ў інфармацыйнай прасторы Беларусі.

***

**Маскоўскае сацыялагічнае агенцтва па даных апытання жыхароў расійскай сталіцы ўстанавіла, што рэйтынг віцэ-прэзідэнта Аляксандра Руцкога значна ўзрос. Цяпер ён карыстаецца такой жа папулярнасцю, як і прэзідэнт Барыс Ельцын, хоць раней моцна ўступаў яму. Сёння Руцкому, як і Ельцыну, давяраюць 38 працэнтаў масквічоў. Сацыёлагі адзначаюць што немалаважную ролю ў росце папулярнасці Руцкога адыграла тая рашучая пазіцыя, якую ён заняў у абароне рускамоўнага насельніцтва ў Прыднястроўі.**

***

Мэр Масквы Юрый Лужкоў забараніў маскоўскаму камітэту Расійскай камуністычнай рабочай партыі праводзіць 2 ліпеня мітынг з заяўленай тэмай — «Прадстаўленне палітычнай апазіцыі пастаяннага штодзённага тэлевізійнага часу». Прычына ў тым, што арганізатарамі мітынгу не захаваны тэрміны падачы паведамлення аб мерапрыемстве, а таксама з іх боку праяўляліся парушэнні грамадскага парадку пры правядзенні сваіх мерапрыемстваў 23 лютага, 9 мая і 12 чэрвеня.

***

**Месяц назад Банк Літвы запусціў у абарачэнне ўласныя грашовыя знакі з наміналам 200 і 500 — маламфарматныя паперкі з адлюстраваннем мядзведзя і зубра. Іменна імі пачалі выдаваць частку зарплаты.**

**І вось урадавае паведамленне: характарыстыка некаторых новых грашовых знакаў не адпавядае нарматыўным апісанням. Прасцей кажучы, яны з бракам.**

**Між іншым, урад са здзіўленнем адзначыў: фактаў падробкі новых грошай не выяўлена. Відаць, падробліваць псеўдарублі, да таго ж і бракаваныя, фальшывамянетчыкі лічаць для сябе ганебным.**

***

Нягледзячы на ўрадавыя заявы аб тым, што крона з'яўляецца адзіным законным плацежным сродкам на тэрыторыі Эстоніі, расійскі «драўляны» рубель па-ранейшаму карыстаецца актыўным попытам у краіне. Найбольш рызыкоўная публіка вядзе рублёвы гандаль, не звяртаючы ўвагі на закон. Абвяшчаюць аб гэтым таблічкі, выстаўляемыя «бізнесменамі», напрыклад: «Мяняю макароны на рублі». І паспрабуй падкапацца. Так што дэкрэтам рубель на эстонскім рынку звесці пакуль што не ўдалося.

***

**У Парыжы адбылася прэс-канферэнцыя, якую арганізавалі сем князёў Раманавых. Яны не прызнаюць у якасці кіраўніка расійскага імператарскага дома дачку нядаўна памёршага вялікага князя Уладзіміра Кірылавіча — Марыю Уладзіміраўну. Фармальна тэмай сустрэчы з журналістамі было прадстаўленне фонду сям'і Раманавых, закліканага дапамагчы маральнаму і духоўнаму адраджэнню Расіі. Аднак 70-гадовы князь Мікалай Раманаў падкрэсліў, што наследаванне прастола павінна ісці па мужчынскай лініі. Разам з тым ён адзначыў, што не жадае ўмешвацца ў палітычныя працэсы і што наўрад ці мадэлі мінулага прыгодныя для будучай Расіі. Некаторыя з князёў, што сустрэліся ў Парыжы, дарэчы, упершыню ўбачылі адзін аднаго, паколькі жывуць у розных краінах.**

***

Асацыяцыя «Проціракавы саюз» Падольскага адміністрацыйнага раёна плануе адкрыць тут першы ў Расіі хоспіс-установу па догляду асабліва цяжкіх ракавых хворых. Пакуль жа супрацоўнікі асацыяцыі арганізавалі бясплатнае харчаванне для хворых з сем'яў маламаёмных і патранажны догляд дома.

***

**На самарскіх барахолках бутэльку гарэлкі можна купіць за чатыры рублі, каньяку — за восем, падробку пад спартыўны «Адыдас» — за 20. Але толькі металічных — з барэльефам Ільіча. А ў горадзе Энгельсе Саратаўскай вобласці бляшанку растваральнай кавы аддаюць за сем, а восемсотрублёвую трусіную шапку — за 15 металічных.**

РЫНАК І АНТЫРЫНАК

# Цень на пляцень

### НАВОДЗІЛА ПАДАТКОВАЯ ІНСПЕКЦЫЯ, УТАЙМОЎВАЮЧЫ БРОКЕРСКУЮ ДЗЕЙНАСЦЬ КАЛГАСА

Многія калгасы, саўгасы, фабрыкі, заводы, вытворчыя аб'яднанні нашай рэспублікі, як, дарэчы, і іншых рэгіёнаў былога Савецкага Саюза, сядзяць зараз на картатэцы. Прычына простая: не падрыхтаваны як след пераход да рынку балюча ўдарыў ледзь не па кожнаму калектыву. Няма ў іх грошай выплаціць заработную плату, набыць неабходнае абсталяванне і тэхніку, разлічыцца за крэдыты і да т. п. Выкручвайся з гэтага незайздроснага становішча сам, як можаш, асабліва не спадзеючыся на дзяржаву — такі дэвіз сёння ў кожнага чалавека і калектыву.

Не стаў ён выключэннем і для калгаса імя Калініна Добрушскага раёна. Нядаўна яшчэ моцная гаспадарка, куды неаднойчы прыязджалі па вопыт, напачатку не вытрымала націску дзікага рынку, не ўстаяла на нагах. Жывёлу мясакамбінаты не прымалі з прычыны перагрузкі халадзільнікаў. Да збору ўраджаю сельгаспрадукцыі яшчэ было далёка. Грашовых паступленняў ад продажу малака дзяржаве яўна не хапала, каб неяк утрымацца на плаве. Адным словам, дрэнь справы. Але ж, як кажуць, бязвыхадных становішчаў не бывае. Прыкінулі кіраўнікі калгаса, што да чаго, і пасля доўгіх сумненняў вырашылі падацца ў брокеры. Маўляў, справа новая, у духу часу, магчыма, і выцягне з гэтага тлуму. Бо, вядома ж: хто не рызыкуе — той не п'е шампанскага.

Як і патрабуецца, сабралі праўленне і вынеслі рашэнне аб набыцці брокерскага месца на Беларускай аграпрамбіржы. Агульны сход калгаснікаў зацвердзіў яго, хаця многія члены гаспадаркі сумняваліся ў поспеху справы. І вось ужо за тое месца заплачана 50 тысяч рублёў і атрымана права на законных падставах рэалізоўваць і купляць праз біржу ўсё, у чым маюць патрэбу, улічваючы, што планавыя і забеспячэнскія органы не спраўляюцца з пастаўкай сельскай гаспадарцы матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў, продажам у кароткія тэрміны лішняй у гаспадарках прадукцыі і г. д.

Сумненні скептыкаў развеяліся даволі хутка, нібы дым пры моцным ветры. За два месяцы —студзень і люты—калгас рэалізаваў тавараў народнага спажывання, насення кукурузы, крухмалу, рознай тэхнікі і г. д., якія належалі яму, на 685 тысяч рублёў. Апрача таго, ён здолеў прадаць на 900 тысяч рублёў прадукцыі прадпрыемства «Легмінрэсурсы» Рэспублікі Беларусь. Прывяду і такія лічбы. Калектыў гаспадаркі атрымаў прыліў свежых фінансавых сіл — прыбытак у суме 253 тысячы рублёў. Ён жа заплаціў дзяржаве амаль 158 тысяч рублёў падатку, які папоўніў раённы бюджэт.

Такім чынам, у той, здавалася б, бязвыхаднай сітуацыі, аб якой расказана вышэй, у выйгрышы аказаліся ўсе — і гаспадарка, і дзяржава, і пакупнікі з самых розных рэгіёнаў нашай рэспублікі. Акрыленыя поспехам, стараючыся зрабіць яшчэ такія-сякія ін'екцыі для далейшага ўмацавання эканомікі калгаса, яго кіраўнікі ўзяліся ажыццявіць яшчэ адну аперацыю—продаж металічных труб на чатыры мільёны рублёў. Аднак на яго шляху да мэты паўстала грозная дзяржаўная арганізацыя — падатковая інспекцыя Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь па Добрушскаму раёну. Яна вынесла свой рашучы вердыкт — калгаснікаў у брокеры «не пушчаць», а іх дзейнасць у гэтым напрамку ўтаймаваць такім макарам, каб дзесятаму заказалі. Крый Божа, каб у брокеры ўслед за калінінцамі (а яны першымі на Гомельшчыне сярод калгасаў і саўгасаў адважыліся на такі крок) палезлі іншыя! Гэтак жа яны разваляць сацыялістычныя формы гаспадарання.

Таму хуценька паставілі перад калгаснікамі своеасаблівы шлагбаўм — брокерская дзейнасць гаспадаркі — нестатутная, а значыць, незаконная, і таму — тыя 1.622 тысячы рублёў, атрыманых ад яе, аддайце, галубочкі, у даход дзяржавы. Прачытаў гэты прыгавор старшыня калгаса Міхаіл Кавуноў і за галаву схапіўся: гаспадарка з носам застаецца, на самае дно падае. За што? Усім выгада ад яе новай справы, нікому шкоды яна не прыносіць. Паклікаў да сябе галоўнага бухгалтара калгаса Пятра Цыганка і разам думу думаць пачалі: што рабіць?

Здаецца, нічога не парушылі, хаця работнікі інспекцыі грозна папярэджваюць, што сваёй брокерскай дзейнасцю калгас ігнараваў цэлы рад артыкулаў Грамадзянскага кодэкса рэспублікі і яе закона аб прадпрыемствах. Акрамя таго, брокерская дзейнасць наогул у статуце гаспадаркі не прадугледжана. А гэта, пытае інспекцыя, ведаеце, чым пахне? Самаўпраўствам у прававой дзяржаве. І—шасць абухом па галаве, каб лепш думала: тэрмінова пералічыце ўсю выручку ў даход дзяржавы.

Але і кіраўнікі калгаса не лыкам шытыя. Яшчэ раз уважліва пазнаёміліся з законамі, сваім статутам, параіліся з юрыстамі, звярнуліся ў райвыканком і прыйшлі да высновы — інспекцыя не мае рацыі. Бо ў статуце гаспадаркі чорным па беламу напісана, што яна мае права займацца самымі рознымі відамі дзейнасці, якія не забаронены заканадаўчымі актамі рэспублікі. Між іншым, і райвыканком у сваім рашэнні пацвердзіў, што брокерская дзейнасць статутам калгаса не забаронена. Да таго ж гаспадарка не ўхіляецца ад выплаты падаткаў дзяржаве. Дык што яшчэ трэба?

— Каб у статуце былі менавіта такія словы: брокерская дзейнасць, — упарта стаяў на сваім начальнік Дзяржаўнай падатковай інспекцыі МФ Рэспублікі Беларусь па Добрушскаму раёну Іван Рабко.

— Ды не трэба перагінаць палку, — пераконвалі яго кіраўнікі калгаса.

— Нічога не ведаю. У выпадку адмовы будзеце трымаць адказ у судзе.

Суддзя гаспадарчага суда Гомельскай вобласці Аляксей Шыбанаў разгледзеў гэту канфліктную справу і расставіў усе кропкі над «і». А іменна: іск падатковай інспекцыі не задаволіў. Канец лагічны. Але так і хочацца задаць пытанне таму ж Івану Рабко: перш чым прымаць рашэнне і псаваць нервы сабе і іншым, ці не лепш было б (калі не ведаеш усіх нюансаў новаўвядзенняў) як належыць пракансультавацца ў юрыстаў ці свайго начальства? Тады і не была б інспекцыя ў палоне ўстарэлых інструкцый, не наводзіла б цень на пляцень.

**У. ПЕРНІКАЎ.**

Добрушскі раён.

## ПАКУПНІКА ЎЖО НОСЯЦЬ НА РУКАХ?

**Сёння ў Мінску, у памяшканні выставачнага комплексу «Мінскэкспа», пачынаецца міжнародны ўніверсальны Беларускі кірмаш «Усход—Захад—Поўнач—Поўдзень». У ім прымаюць удзел каля 400 фірм, прадпрыемстваў і кампаній з краін СНД, Балтыі, а таксама Германіі, Бельгіі, Італіі, Польшчы і іншых дзяржаў.**

Не баючыся памыліцца, можна сказаць, што адным з самых ходкіх моўных выразаў, якімі мы сёння пачынаем і заканчваем нашы размовы, з'яўляецца такі: «Хто б мог падумаць?» Сапраўды, хто б мог яшчэ паўгода назад меркаваць, што ў цяперашні час жорсткага ўсеагульнага дэфіцыту на ўсё і ўся, складзецца сітуацыя, калі прадаўцоў будзе ў шмат разоў больш, чым пакупнікоў, і апошніх стануць, вобразна кажучы, цягнуць за рукаў і ўлагоджваць, каб толькі што-небудзь купілі?

Яшчэ год назад на такіх камерцыйных мерапрыемствах, як «Мінскі кірмаш», з кожных сямі яго ўдзельнікаў тавары прадаваў толькі адзін. На сённяшнім жа кірмашы дзевяць дзесятых экспанентаў будуць прадаўцамі. Не трэба, аднак, вельмі захапляцца гэтым фактам і думаць, што такія суадносіны попыту і прапановы дыктуе іменна рынак. Усё куды больш сурова і празаічна: з-за высокіх цэн на сваю прадукцыю нашы айчынныя, ды і іншыя вытворцы літаральна затаварыліся. З мэтай дапамагчы вытворчым калектывам, выцягнуць іх са стану калапсу і быў задуманы міжнародны кірмаш. Усе яны хочуць цяпер мець як мага больш «драўляных» рублёў, якіх сёння так не хапае, — і гэту праблему дапаможа вырашыць кірмаш. Тое, што рубель даволі нечакана «запрацаваў», — таксама неспадзяваная (і даволі, заўважым, прыемная) навіна.

Ёсць і іншыя штрыхі, якія сімвалізуюць пэўныя станоўчыя зрухі: для спрашчэння механізма ўвозу — вывазу тавараў Савет Міністраў рэспублікі прыняў рашэнне аб тым, што адпаведныя ліцэнзіі могуць быць афармлены ўсяго за тры дні. У гэтым прадаўцам і пакупнікам дапаможа спецыяльны разліковы цэнтр, паколькі ў спісе прапанаваных да рэалізацыі тавараў каля тысячы назваў — ад аўтамабіляў і будаўнічай тэхнікі да прадуктаў харчавання і медыцынскага абсталявання.

Пры ўсім тым «пражэктар» кірмашу высвечвае і тэндэнцыі зусім іншага плана. Зноў факт для роздуму: сярод фірм-экспанентаў нямала і дзяржпрадпрыемстваў, у большасці дробных і сярэдніх, буйных значна менш. Гэта тыя калектывы, якія сапраўды шукаюць для сябе новыя рыначныя шляхі. Вялікая ж частка заводаў-манапалістаў усе гэтыя «непатрэбныя» ім кірмашы па-ранейшаму пагардліва ігнаруе, што прадэманстравала і цяпер. Відаць, параненйшаму разлічваюць толькі на дзяржаўную падтрымку, на тое, што іх даўгі зноў спішуцца за кошт грамадства. Сапраўды, хто б мог падумаць, што ўсе гора-гаспадары так адразу і адмовяцца ад лёгкага жыцця?

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

## ДАВЕДКА—ЗА ТРЫ РУБЛІ

**СЛОНІМ. (М. Мініч). Каб атрымаць неабходную інфармацыю ў касе чыгуначнага вакзала ў Слоніме, трэба заплаціць тры рублі.**

**У такую суму ацанілі чыгуначнікі, напрыклад, даведку аб адпраўленні прыгараднага поезда на Баранавічы. Цікава, ці знойдуцца пераемнікі такога эксперымента?**

# Аб аплаце працы работнікаў у Рэспубліцы Беларусь

Сярэднемесячная заработная плата рабочых і служачых у студзені—маі г. г. склала 2.250 рублёў і ўзрасла супраць студзеня—мая мінулага года ў 6,9 раза. У маі сярэдняя заработная плата склала 3.484 рублі і павялічылася ў параўнанні з красавіком г. г. на 878 рублёў, або на 34 працэнты.

Даныя аб аплаце працы работнікаў на прадпрыемствах, установах і арганізацыях асобных галін народнай гаспадаркі прыведзены ў табліцы:

| | Сярэдня месячная заработная плата работнікаў, рублёў | | У працэнтах да адпаведнага перыяду 1991 г. | |
|---|---|---|---|---|
| | У студзені — маі 1992 г. | У маі 1992 г. | Студзень — май 1992 г. | Май 1992 г. |
| Рабочыя і служачыя | 2.250 | 3.484 | 686 | 824 |
| у тым ліку па прадпрыемствах, установах і арганізацыях | | | | |
| прамысловасці | 2.603 | 3.783 | 757 | 821 |
| саўгасаў | 1.583 | 2.691 | 582 | 756 |
| транспарту | 2.575 | 4.098 | 707 | 847 |
| сувязі | 2.069 | 3.257 | 674 | 776 |
| будаўніцтва | 2.757 | 4.283 | 698 | 859 |
| гандлю і грамадскага харчавання | 1.645 | 2.600 | 621 | 781 |
| жыллёва-камунальнай гаспадаркі і бытавога абслугоўвання насельніцтва | 1.920 | 3.139 | 711 | 815 |
| аховы здароўя, фізкультуры і сацыяльнага забеспячэння | 1.778 | 3.112 | 642 | 918 |
| народнай адукацыі | 1.744 | 3.007 | 599 | 898 |
| культуры | 1.562 | 2.706 | 583 | 818 |
| мастацтва | 1.609 | 2.414 | 452 | 494 |
| інфармацыйна-вылічальнага абслугоўвання | 1.572 | 2.284 | 521 | 631 |
| крэдытавання і дзяржаўнага страхавання | 2.988 | 4.645 | 632 | 839 |
| апарату органаў кіравання | 2.441 | 3.849 | 623 | 859 |
| калгаснікі | 1.392 | 2.367 | 521 | 715 |

**ДЗЯРЖКАМСТАТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.**

# Вытворчасць прадуктаў харчавання ў Рэспубліцы Беларусь

Вытворчасць асобных відаў прадуктаў харчавання за шэраг гадоў прыводзіцца ў табліцы:

(тысяч тон)

| | 1985 | 1991 | 1991 у працэнтах да 1985 |
|---|---|---|---|
| Мяса (прамысловая выпрацоўка) | 727,7 | 791,6 | 108,8 |
| Каўбасныя вырабы | 172,9 | 209,7 | 121,3 |
| Мясныя паўфабрыкаты | 88,3 | 97,5 | 110,4 |
| Улоў рыбы | 16,1 | 15,5 | 96,6 |
| Харчовая рыбная прадукцыя | 33,6 | 36,3 | 108,1 |
| Масла | 125,6 | 137,0 | 109,1 |
| Тлустыя сыры | 49,2 | 57,3 | 116,5 |
| Цэльнамалочная прадукцыя ў пераліку на малако | 1.334,0 | 1.651,7 | 123,8 |
| Кансервы, млн. умоўных бляшанак | 660,0 | 727,7 | 110,3 |

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# Яшчэ раз да ўвагі сувязістаў і падпісчыкаў

**«Тры месяцы прайшло, як стараюся падпісацца на вашу газету, —і безвынікова. На студзень—сакавік у мяне была падпіска, але прадоўжыць ні на май, ні на чэрвень яе не захацелі ні ў Рамельскім, ні ў Мачульскім паштовых аддзяленнях. Адказ адзін: не ведаем падпіснай цаны.**

**Скажыце, вам сапраўды не патрэбны падпісчыкі ці ваша выданне стала лімітаваным?»**

**Гэта радкі з пісьма нашага чытача са Столінскага раёна Тадэвуша Эдуардавіча Шпігановіча. З такімі пытаннямі ў рэдакцыю пісьмова і па тэлефоне звяртаюцца і іншыя прыхільнікі «Звязды», якія па розных прычынах засталіся без нашай газеты.**

**Яшчэ раз паведамляем: ніякага ліміту на «Звязду» няма, ва ўсіх прадпрыемствах сувязі падпіска на яе прымаецца БЕЗ АБМЕЖАВАННЯЎ. І мы толькі за тое, каб было як мага больш чытачоў, асабліва рады літаральна кожнаму новаму яе прыхільніку.**

**Што датычыцца падпіснай цаны, то тут таксама не павінна быць ніякіх непаразуменняў. Яе мы неаднаразова паведамлялі у сваёй газеце, ведаюць (ва ўсякім разе павінны ведаць) яе і ў кожным аддзяленні сувязі.**

**Тым не менш яшчэ раз публікуем сёлетнюю падпісную цану на газету «Звязда» (для новых яе падпісчыкаў):**

**На паўгода — 62 рублі 40 капеек;**
**На тры месяцы — 31 рубель 20 капеек;**
**На месяц — 10 рублёў 40 капеек.**

Ф. СП-1

**АБОНЕМЕНТ** на газету **63850** (индекс издания)

**„ЗВЯЗДА"**

Количество комплектов: 1

на 1992 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куда ________ (почтовый индекс) ________ (адрес)

Кому ________ (фамилия, инициалы)

**ДОСТАВОЧНАЯ КАРТОЧКА**

ПВ | место | литер — на газету **63850** (индекс издания)

**„ЗВЯЗДА"**

Стоимость подписки ____ руб. ____ коп.; переадресовки ____ руб. ____ коп. Количество комплектов: 1

на 1992 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куда ________ (почтовый индекс) ________ (адрес)

Кому ________ (фамилия инициалы)

